**Гродна**
№9 (491),
29 красавіка 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Маліся за нас, Святая Багародзіца!






**Хутка распачнецца марыйны месяц май. У святынях, ля прыдарожных крыжоў і каплічак можна будзе пачуць Ларэтанскую літанію – найпрыгажэйшы гімн ушанавання Маці Божай. Вернікі збяруцца на малітве разам, каб праслаўляць цноты і прывілеі, якімі Бог надзяліў Марыю.**


● *працяг на с. 3*


**"Марыйная набожнасць – патрэба хрысціянскага жыцця". Папа Францішак**




**V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 15, 1–8**

Езус сказаў сваім вучням: “Я – сапраўдная вінаградная лаза, а Айцец Мой – вінаградар. Кожную галінку ўва Мне, якая не прыносіць плоду, Ён адразае, і кожную, якая дае плод, Ён ачышчае, каб давала яшчэ больш пладоў. Вы ўжо чыстыя дзякуючы слову, якое Я сказаў вам. Заставайцеся ўва Мне, а Я – у вас. Як галінка не можа прынесці плоду сама з сябе, калі не застанецца ў вінаграднай лазе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне. Я – вінаградная лаза, вы – галіны. Хто застаецца ўва Мне, а Я – у ім, той прыносіць багаты плён, бо без Мяне нічога не можаце зрабіць. Хто не застаецца ўва Мне, будзе выкінуты вон, як галіна, і засохне. І збіраюць іх, і кідаюць у агонь, і яна згарае. Калі будзеце ўва Мне і словы Мае ў вас будуць, прасіце, чаго захочаце, і станецца вам. Гэтым уславіцца Айцец Мой, калі вы прынясеце багаты плён і станеце Маімі вучнямі”.

## ЦЕШЫЦЦА ПАЎНАТОЙ ЖЫЦЦЯ

Тых, хто жыве ў веры, Хрыстос параўноўвае з вінаграднай лазой, якая прыносіць шчодры плён. Кожны чалавек з’яўляецца нібы галінкай, якая, калі яе адарваць ад сцябла – Езуса, што дзейнічае ў сваім Касцёле і праз Касцёл, становіцца мёртвай і не прыносіць пладоў. “Без Мяне нічога не можаце зрабіць”, – гаворыць Хрыстос вельмі выразна.

Збаўца запрашае ўсіх нас жыць у еднасці з Ім. Гэтай дарогай трывання ў Хрысце з’яўляецца вера. Менавіта дзякуючы ёй мы здольны падтрымліваць сталую сувязь з Богам, што патрэбна нам так жа, як неабходна з’яднанне лазы з вінаградным кустом, каб магчы даваць плады. Дзякуючы веры мы здольны ва ўсёй паўнаце цешыцца прыгажосцю жыцця, крыніцай якога з’яўляецца Бог, і прыносіць шчодры плён, узбагачаючыся дарамі Святога Духа.

**Ці стараюся заўсёды трываць пры Езусе?**

**Што ўмацоўвае маю асабістую сувязь з Хрыстом?**

**VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 15, 9–17**

Езус сказаў сваім вучням: “Як Мяне палюбіў Айцец, так і Я палюбіў вас. Заставайцеся ў Маёй любові. Калі будзеце захоўваць Мае запаведзі, застанецеся ў любові Маёй, як і Я захаваў запаведзі Айца Майго і застаюся ў Ягонай любові. Гэта Я сказаў вам, каб Мая радасць была ў вас, і каб радасць вашая была поўнай. Вось запаведзь Мая, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас. Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх. Вы сябры Мае, калі робіце тое, што Я наказваю вам. Я ўжо не называю вас слугамі, бо слуга не ведае, што робіць ягоны гаспадар. Я ж назваў сябрамі вас, бо ўсё, што чуў ад Айца Майго, Я сказаў вам. Не вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас і прызначыў, каб вы ішлі і прыносілі плён, і каб плён ваш трываў. Каб Айцец даў вам тое, чаго толькі папросіце ў імя Маё. Гэта наказваю вам, каб вы любілі адзін аднаго”.

## АКАЗАЦЬ СВАЮ ЛЮБОЎ

Езус указаў нам найлепшы прыклад бязмежнай любові, здольнай да ахвяры, якая нават не паддаецца людской логіцы. Ад гэтай бязмежнай любові Хрыстос памірае на крыжы, каб даць чалавеку вечнае жыццё.

Збаўца прагне для ўсіх нас шчасця і называе сваімі сябрамі. Ён выбраў кожнага чалавека, аднак многія не адказваюць на гэта, адварочваючыся ад Пана, адштурхоўваючы Яго. Выбраць Езуса – значыць пасябраваць з Ім. Слухаць тое, што Ён гаворыць, выконваць Яго запаведзі, паколькі гэта адзіны спосаб, якім мы можам паказаць Збаўцы сваю любоў.

**Як я выражаю сваю любоў да Бога?**

**Ці здольны бескарысліва любіць іншага чалавека?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Цярпліва слухаючая

*Месяц май з незапамятных часоў прысвечаны Марыі. Пагоднымі вечарамі, калі ўсё ў прыродзе квітнее, пахне і спявае, людзі збіраюцца ў святынях, ля прыдарожных крыжоў і капліц, каб ушанаваць Маці Божую. Штодзённае набажэнства ў Яе гонар на працягу мая з’яўляецца неад’емным элементам сустрэч вернікаў на малітве.*

Св. Бэрнард гаварыў: “Бог хоча, каб мы не мелі нічога, што б не прайшло праз рукі Марыі”. Таму менавіта ў маі – найпрыгажэйшым месяцы года – мы асаблівым чынам адкрываем сэрцы на Беззаганную, бо хочам даручыць Ёй усе нашы дзённыя справы, прагнем скіраваць да Маці Божай самае гарачае і пяшчотнае пакланенне, што плыве з сэрца.

У сённяшнія часы, калі вера так часта падвяргаецца выпрабаванням, калі яе фундаменты падкопваюцца ворагамі Касцёла, калі чалавек паддаецца сумненням, на дапамогу яму прыходзіць Маці Божая, сэрца якой нястомна звернута да Усемагутнага. Марыя ўказвае ўсім нам, чым з’яўляецца сапраўдная любоў і дзе мае свае вытокі, а таксама якім чынам яна магчымая. Найсвяцейшая Маці ніколі не застаецца абыякавай да просьбаў і плачу сваіх дзяцей. Заўсёды цярпліва выслухоўвае, каб праз сваё заступніцтва выпрасіць у Хрыста ласку змілавацца і адвярнуць нядолю.

Праз удзел у маёвым набажэнстве можам знайсці адказы на многія пытанні, якія выклікаюць сумненні, аднавіць карані сваёй веры, наладзіць шчырую сувязь з Хрыстом. Маёвае набажэнства – гэта таксама магчымасць даручыць Маці Божай сваю жыццёвую штодзённасць, разнастайныя праблемы і заблытаныя дарогі. Трэба толькі з даверам пайсці да Яе, расказаць пра ўсё. Беззаганная ў сваю чаргу заўсёды прытуліць да свайго любячага сэрца і паспяшаецца з дапамогай.

Няхай заахвочваннем да ўдзелу ў маёвым набажэнстве для нас будуць словы св. Бэрнарда: “У небяспеках, у нястачах, у сумненнях […] думай пра Марыю, заклікай Яе. Няхай Яе імя ніколі не сыходзіць з тваіх вуснаў, няхай ніколі не пакідае тваё сэрца. А каб малітва Маці Божай была табе дапамогай, ніколі не забывайся пра прыклад Яе жыцця. Ідучы з Ёй, не заблукаеш; молячыся да Яе, пазбегнеш роспачы; думаючы пра Яе, не збочыш з дарогі. Калі Яна будзе цябе падтрымліваць, не ўпадзеш; калі будзе табой апекавацца, не збаішся; калі будзе табой кіраваць, не стомішся; калі будзе да цябе ласкавай, дойдзеш да мэты”.

**Дарагія Чытачы!**

Даручым Усемагутнаму нашае жыццё, а асаблівым чынам тое, што нам баліць, што даецца нялёгка, што прыносіць цярпенне. Памятайма, што жыццё без ахвяры, без адрачэння – малакаштоўнае. Давайце па прыкладзе Найсвяцейшай Панны Марыі выконваць Божую волю і, так як Яна, заставацца людзьмі малітвы, перш за ўсё, малітвы праслаўлення Стварца. Будзьма сябрамі Беззаганнай і адчувайма сябе Яе дзецьмі!

## “НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ”

# СВ. ЛЕАПОЛЬД МАНДЗІЧ: ЗАСТУПНІК СПАВЕДНІКАЎ І ПЭНІТЭНТАЎ



*У іканаграфіі св. Леапольд Мандзіч прадстаўлены ў капуцынскім хабіце. Часта са святарскай стулай фіялетавага колеру і з выцягнутай рукой, што сімвалізуе адпушчэнне грахоў.*

***Святы быў сапраўдным “гігантам” споведзі. Некаторыя абураліся, што святар занадта лёгка адпускае грахі. У адказ ён гаварыў: “Пане, даруй мне, што зашмат прабачыў, але гэта Ты паказаў мне такі «дрэнны» прыклад”.***

### МАЛЫ ВЯЛІКІ СВЯТЫ

Багдан Мандзіч нарадзіўся 12 мая 1866 года ў Герцэг-Нові ў Далмацыі (сёння Чарнагорыя, недалёка ад мяжы з Харватыяй). Ва ўзросце 16-ці гадоў паступіў у семінарыю капуцынаў. Праз 8 гадоў атрымаў святарскія пасвячэнні ў Венецыі (Італія).

Як малады святар а. Леапольд (яго манаскае імя) выглядаў незвычайна. Ростам быў каля 140 см, кульгаў, гаварыў невыразна, заікаўся, меў пачырванелыя вочы і скручаныя прагрэсіруючым артрытам рукі. Гэтыя фізічныя асаблівасці паспрыялі таму, што ў якасці душпастырскага абавязку яму быў дручаны толькі сакрамант паяднання. І менавіта з гэтым заданнем у 1906 годзе а. Мандзіч прыбыў у Падую, дзе заставаўся да самай смерці.

Першапачаткова святар прымаў грэшнікаў у канфесіянале. З часам – у малым душным памяшканні, якое называлі “кабінетам гасціннасці”. Напэўна, з-за таго, што яго гаспадар кожнага пэнітэнта ўспрымаў як госця і вітаў таго стоячы: “Хадзі, хадзі. Калі ласка, сядай”. Тым, хто выглядаў вельмі заклапочана, казаў: “Калі ласка, не бойся. Не саромейся”.

Здаралася таксама так, што, выходзячы са свайго “кабінета”, а. Леапольд, кіруемы звышнатуральным веданнем, адным толькі позіркам і словам садзейнічаў споведзі кагосьці, хто раней абсалютна не меў намеру да яе прыступаць. Людзі, якія прыходзілі да манаха, расказвалі пазней, што святар, здаецца, ведаў пра іх правіны яшчэ да раскрыцця, таму што наводзіў на тыя грахі, пра якія забыліся расказаць, ці на тыя, што былі занадта цяжкія для таго, каб самастойна іх прызнаць.

Парады, дадзеныя а. Мандзічам на споведзі, звычайна былі кароткімі і змястоўнымі. Прыкладам можа паслужыць павучэнне, скіраванае Барнабе Габіні – апошняму чалавеку, які прыступіў у яго да споведзі. Святар сказаў пэнітэнту толькі адзін сказ: “Лепш памерці, чым зняць хабіт”.

А. Леапольд спавядаў... ад 12-ці да 15-ці гадзін у дзень! А калі ахвотнікаў было вельмі шмат, не рабіў перапынкаў нават на тое, каб што-небудзь з’есці. Памёр 30 ліпеня 1942 года ва ўзросце 76-ці гадоў, пераможаны ракам. Беатыфікаваны папам Паўлам VI 2 мая 1976 года, кананізаваны папам Янам Паўлам II 16 кастрычніка 1983 года.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЛЕАПОЛЬДА МАНДЗІЧА?

Ён дапамагае нам, сучаснікам, адкрыць харызму, якой маем служыць нашым бліжнім. Спаведнікаў натхняе ў іх паслузе міласэрнасці. Пэнітэнтаў пераконвае, што варта заўсёды мець чыстае сэрца і ніколі не баяцца споведзі.

### ЦІКАВА!

У маі 1944 года падуанскі кляштар быў знішчаны ў выніку бамбардзіроўкі. Ацалела толькі келля а. Леапольда. Да сёння можна ўбачыць старое крэсла і сцёрты каленямі тысяч пэнітэнтаў кленчнік. Відаць, Бог хацеў, каб келля-канфесіянал св. Леапольда захавалася для патомкаў як бачны сімвал Яго міласэрнасці, аказанай праз паслугу святара.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

“Тым, каго я спавядаў, даю лёгкую пакуту, таму яе рэшту павінен сам за іх адправіць”.

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Леапольда Мандзіча 12 мая.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Маліся за нас, Святая Багародзіца!

**Адным з месцаў, дзе ў маі можна будзе пачуць гімн ушанавання Маці Божай, з'яўляюцца прыдарожныя капліцкі. Яны вырастаюць з рэлігійнай традыцыі мясцовых жыхароў і сведчаць аб іх моцнай веры. Але акрамя таго, што прыдарожныя капліцкі – бачны знак Божай прысутнасці, гэта яшчэ і элемент культуры, які шмат што можа распавесці пра паселішча і яго абывацеляў.**

● *працяг са с. 1*

### ЖАДАННЕ МАЛІЦЦА РАЗАМ

Прыдарожныя капліцкі – гэта невялікія культавыя пабудовы, якія існуюць амаль у кожнай мясцовасці. Так, калі святыні паблізу не было, яны ўзводзіліся з той мэтай, каб тамтэйшыя жыхары, якія не заўсёды мелі магчымасць дабрацца да касцёла, маглі збірацца разам у канкрэтным месцы на супольную малітву.

У некаторых мясцовасцях пэўны чалавек званіў у невялікі звон, які знаходзіўся паблізу капліцкі, запрашаючы астатніх на маёвае або ружанцовае набажэнства. Але, як правіла, людзі мелі для гэтага вызначаны час, і звон быў больш неабходны для таго, каб паведамляць жыхарам, што хтосьці адышоў па ўзнагароду да Пана. І тады вернікі пакідалі на некалькі хвілін усе свае справы, каб адгаварыць у інтэнцыі памерлага "Вечны супакой...". Па традыцыі па дарозе на могілкі пахавальная працэсія заўсёды спынялася ля крыжа і капліцкі, каб развітацца з памерлым, які назаўсёды адыходзіць з вёскі.

Асабліва шмат вернікаў збіралася ля прыдарожных капліцак з нагоды важных рэлігійных свят. Менавіта там праз даяджаючага святара асвячаліся стравы на велікодны стол. Такая практыка існуе і сёння.

Падчас урачыстасці Божага Цела капліцкі былі і з'яўляюцца алтарамі, да якіх скіроўваецца працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам. Менавіта ад іх распачынаецца шлях пілігрымаў да святых месцаў. Многія прыходзяць сюды за бласлаўленнем Маці Божай перад дальняй дарогай.

### УПРЫГОЖАНЫЯ СЭРЦАМІ

Найчасцей прыдарожныя капліцы бываюць драўлянымі або мураванымі. Першыя могуць знаходзіцца на дрэвах, слупах ці на зямлі. Другія ж звычайна маюць форму малога будынка, накрытага дахам, з унутранымі алтарамі і абразамі на сценах. Яны могуць быць зашклёныя, агароджаныя. Заўсёды ўпрыгожаны жывымі ці штучнымі кветкамі, часам стужкамі ці сцягамі. Часта на прыдарожных капліцах выгравіраваны або намаляваны фарбай цытаты з Евангелля, словы малітваў.

У XIX стагоддзі сярод вернікаў стала шырока распаўсюджвацца ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса, культ якога афіцыйна зацвердзіў у Касцёле папа Леў XIII. Гэты ж час характарызуецца развіццём марыйнага культу. Імпульсам таму сталі аб'яўленні Маці Божай у Парыжы (1830 г.), Ла Салет (1846 г.), Лурдзе (1858 г.), Фаціме (1917 г.). Такім чынам, у дадзены перыяд даволі часта ля прыдарожных крыжоў сустракаюцца фігуры або афармленыя абразы Езуса і Марыі. Часам яны ставяцца асобна па розных канцах мясцовасці. Сустракаюцца таксама вывы іншых святых.

Фундатарамі прыдарожных каплічак выступалі мясцовыя супольнасці, парафія, асобныя сем'і і знакамітыя дзеячы. Амаль заўсёды іх імёны заставаліся ананімнымі. Лічылася, што ў справах на Божую хвалу не патрэбны подпіс.



*Прыдарожная капліцка Маці Божай у Глушнева*

### "МОДА" НА КАПЛІЧКІ

Адкуль бярэ пачатак традыцыя ўзвядзення прыдарожных капліц, дакладна невядома. Аднак яна настолькі ўпісалася ў жыццё людзей нашых зямель, што ўжо лічыцца чымсьці натуральным, як сонца і аблокі на небе.

Па тым, якія помнікі сакральнага мастацтва захаваліся да сённяшніх дзён, можна зрабіць вывад, што сапраўдны бум на будаўніцтва прыдарожных капліцак на нашых тэрыторыях здарыўся пасля II Сусветнай вайны. Людзі ўзводзілі іх на месцах спачыну загінуўшых, у інтэнцыі падзякі за ацалелыя мясцовасці. Такім чынам, у Глушнева (Гродзенскі р-н) мясцовыя жыхары, а канкрэтна 2 браты Кісялеўскія, пасля вайны паставілі ў цэнтры мясцовасці прыдарожную капліцку з фігурамі Езуса Хрыста і Яго Маці "за тое, што падчас вайны вёску захавалі". На капліцы ўказаны год яе ўзвядзення (1945) і значыцца надпіс на польскай мове: "Niepokalane Serce Maryi, króluj nam" ("Беззаганнае Сэрца Марыі, валадар нам"). У Забалоцці (Гродзенскі р-н) пасля вайны была ўсталявана капліцка Маці Божай, перавезеная сюды з Літвы. Уяўляе сабой слуп са ствала дрэва, у нішы якога змешчана фігурка Найсвяцейшай Панны Марыі. Нягледзячы на тое, што вёска амаль знікла і засталося толькі некалькі хат з пастаяннымі жыхарамі, сакральнае месца знаходзіцца ў добрым стане, заўсёды дагледжанае людзьмі.

Шматлікія прыдарожныя капліцкі былі пабудаваны на пераломе XIX–XX стагоддзяў. Нямала іх паставілі і ў 1990-я гады. Узводзяцца яны і сёння.

### НЕВЫПАДКОВЫЯ МЕСЦЫ

Капліцы можна сустрэць у самых розных месцах: на пачатку і ў канцы паселішча, на раздарожжах і скрыжаваннях дарог, на могілках, ля рэк, азёр, крыніц, мастоў і інш. Раней да капліцак у полі жнеі звычайна прыносілі першы і апошні сноп сена. На лясных сцяжынках ля капліцак часцяком адгаворвалі "пахвалёнку" або іншую малітву грыбнікі і ягаднікі, паляўнічыя, леснікі, падарожныя.

Капліцкі ніколі не ўзводзіліся ў выпадковым месцы.

*Кожная капліца мае сваю гісторыю.*

Звычайна людзі ставілі іх там, дзе адбываліся важныя для мясцовай супольнасці падзеі. Часам яны паўставалі на тэрыторыі, дзе раней былі касцёлы, каб захаваць "святасць" месца, або дзе толькі планавалася будаўніцтва святыні. Таму на месцах шматлікіх сучасных касцёлаў калісьці ў далёкім мінулым узвышаліся менавіта такія маленькія капліцкі. Гэта сведчыць аб тым, што зямля пад імі намоленая.

Сёння капліцы Маці Божай можна сустрэць і ў прысядзібных садах, што раней было, хутчэй, выключэннем. Адна з такіх знаходзіцца на былым падворку сям'і Каханоўскіх у Вавёрцы (Лідскі р-н). Набожныя вернікі збудавалі яе ў 1993 годзе ў знак падзякі Марыі за апеку над іх сям'ёй. Сёння гаспадары выехалі, а культавая пабудова засталася ў спадчыну іншым жыхарам.

*Часам прыдарожныя капліцкі з'яўляюцца найстарэйшымі помнікамі мінуўшчыны ў паселішчы.*

Яшчэ адна прыватная капліцка ў гонар Маці Божай знаходзіцца на прылягаючай тэрыторыі дома сям'і Казлоўскіх у Доцішках (Воранаўскі р-н). Пабудавана ў 1990 годзе. "Яна з'явілася ў нас на падворку ў той час, калі вызнанне веры нібы афіцыйна дазволілі, – успамінае спадарыня Марыя. – Тады яшчэ не мелі ў вёсцы касцёла, таму збіраліся на маёвыя і ружанцовыя набажэнствы ля капліцкі ў нашым двары. Гэта сёння ў мясцовасці ўзвышаецца касцёл, а таксама некалькі прыдарожных крыжоў і капліц, а тады не мелі іх столькі. Аднак мы шмат маліліся ў гэтай інтэнцыі і, як бачым, нашы малітвы былі пачутыя".

### ПРАЗ РУКІ МАРЫІ

Здаўна прыдарожныя капліцкі ўзводзіліся ў розных інтэнцыях. Гэта маглі быць воты просьбы: аб ураджаі, поспеху, прабачэнні ўчыненага граху, абароне ад злога, аб апецы над душамі памерлых неахрышчаных, загінуўшых раптоўнай смерцю, самазабойцаў, асуджаных. А маглі быць таксама воты падзякі: за аздараўленне, ацаленне жыцця, нараджэнне дзіцяці, абарону ад катаклізмаў (пажару, паводкі, вайны ці мору), за дабрабыт, азнаменаванні, мэтай якіх было, перш за ўсё, азначэнне месцаў, звязаных з аб'яўленнямі "сакрум" ці з побытам святых, а таксама за іншыя важныя падзеі. На нашых землях найбольш распаўсюджана ўзвядзенне прыдарожных капліцак у знак падзякі за атрыманыя ласкі. У гэтай канкрэтнай інтэнцыі паўстала амаль кожнае 2-ое месца малітвы.

У падзяку за шматлікія спазнаныя ласкі ўзвышаецца фігура Маці Божай у двары сям'і Яшэўскіх у Вайневічах (Ашмянскі р-н). "Калі сын хадзіў у 3 клас, я моцна захварэла і трапіла ў бальніцу, – распавядае спадарыня Ядзвіга, маці дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандра Яшэўскага SDB. – Стан быў такі цяжкі, што думала, не выжыву. Але бачу сон... Выходжу з бальніцы на ганак, а перада мной – Маці Божая. Яна глядзіць на мяне і гаворыць: «Дзетка, усё ў маіх руках!». Калі я расказала пра свой сон старэйшай бабульцы, тая заўважыла, што Марыя мяне моцна любіць і што я павінна шмат маліцца да Яе. Мінуў час, і сёння я ўжо не ўяўляю дзень без малітвы да Маці Божай. Заўсёды прашу аб Яе заступніцтве для сына. Ведаю, што Марыя спадарожнічае чалавеку і ніколі яго не пакідае".


*Капліцка Маці Божай на прысядзібным участку ў Вайневічах*

**Маліся за нас, Святая Багародзіца, каб сталіся годнымі абяцанняў Хрыстовых!**

*Ангеліна Пакачайла*

---

## СЛОВА для жыцця

### *Папа Францішак*



*Сапраўдны прарок з'яўляецца прапаведнікам не няшчасця, а надзеі. Ён адчыняе брамы, гоіць карані, аднаўляе прыналежнасць да Божага народа, каб той ішоў наперад. Не дакарае, кіруючыся ўладай, наадварот, з'яўляецца чалавекам надзеі. Папракае, калі гэта неабходна, і адчыняе дзверы, гледзячы на перспектыву надзеі. Сапраўдны прарок, калі добра робіць працу, плаціць за гэта сваім жыццём.*

*Касцёл мае патрэбу ў прароках. Скажу больш: мы ўсе павінны быць прарокамі. Не крытыканамі – гэта зусім іншае. Гаворка ідзе не пра заўсёды крытычнага суддзю, які нічога не любіць, якому нічога не падабаецца... Такі чалавек – не прарок. Прарок – гэта той, хто моліцца, глядзіць на Бога, глядзіць на свой народ, адчувае боль, калі людзі блукаюць, плача, але таксама ўмее адпаведна выкарыстаць гэта, каб сказаць праўду. [...] І Езус, з аднаго боку, кажа рэзкія словы, але, з другога, аплаквае Ерузалем. Гэтым правяраецца сапраўдны прарок: ён мае здольнасць плакаць над сваім народам і казаць цвёрда, калі павінен тое рабіць.*

*Няхай у Касцёле не будзе недахопу ў прароцкім служэнні для таго, каб пастаянна рухацца наперад!*

*Фрагменты гамілії, прамоўленай падчас ранішняй св. Імшы ў Ватыкане, 17.04.2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Падобна як Пятра, сустрэча з Хрыстом перамяніла ўсіх Яго вучняў. Ужо неўзабаве, напоўненыя Святым Духам, яны адкрыюць зачыненыя дзверы, выйдуць з вячэрніка і пойдуць у свет, каб даваць сведчанне пра ўсё, што бачылі і чулі. На фундаменце іх веры ўзнікне супольнасць, называемая Касцёлам, да якой мы ўсе сёння належым і якая да сканчэння часу з пакалення ў пакаленне будзе абвяшчаць радасную навіну, што Хрыстос уваскрос і жыве.*

*Кожны з нас як хрысціянін пакліканы да таго, каб быць сведкам Уваскрослага. Але для гэтага трэба спачатку пазнаць Яго, сустрэць у сваім жыцці. [...] Нашыя ўчынкі, калі прадыктаваны любоўю да Бога і бліжняга, з'яўляюцца найлепшым сведчаннем таго, што ведаем Хрыста. Вера чалавека, што не пацвярджаецца яго паводзінамі, ніколі не будзе сапраўднай верай. Яна стане фальклорам, традыцыяй, звычаем, модай, светапоглядам, жыццёвай філасофіяй – але верай не будзе. Таму прыйдзем да Пана з просьбай, каб Ён умацаваў нашу веру, зрабіў яе больш сталай і больш дзейснай.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай на сустрэчы з Душпастырствам чыгуначнікаў падчас св. Імшы ў лідскай парафіі Святой Сям'і, 15.04.2018*



◆ Святы Пасад і міжнародная супольнасць прагнуць унесці свой уклад у забеспячэнне міру і бяспекі для жанчын. Пра гэта паведаміў арцыбіскуп Бернардзіто Ауза, пастаянны назіральнік ад Апостальскай Сталіцы пры штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку (ЗША). У сваёй прамове падчас дыскусіі па гэтым пытанні іерарх засяродзіўся на некалькіх момантах адносна павагі годнасці жанчын, якія, між іншым, датычаць абароны іх інтарэсаў, клопату аб адукацыі, эканамічнай і сацыяльнай бяспекі.

◆ Папа Францішак пацвердзіў здзейснены Сінодам біскупаў Украіны выбар новага дапаможнага біскупа Сакальска-Жалкоўскай дыяцэзіі. Ім стаў а. Петра Лоза CSsR, народжаны 3 чэрвеня 1979 года. Такім чынам ён стане самым малодшым біскупам у свеце. Іерарх паходзіць з-пад Львова. Ва ўзросце 18-ці гадоў ён уступіў у супольнасць рэдэмптарыстаў, у якой у 2003 годзе склаў вечныя абяцанні, а ў 2007 годзе прыняў святарскія пасвячэнні. Вучыўся ва ўніверсітэце Інсбрука ў Аўстрыі (2001–2009). Спачатку быў вікарыем у парафіі ў Вінніцы, затым адміністратарам парафіі ў Гніздычове-Кахавіне, правінцыйным дарадцам сваёй супольнасці, а з 2014 года – адміністратарам парафіі ў Чарнігаве, дзе таксама з'яўляўся капеланам 2-юх турмаў.

◆ Цэнтр малітвы за мір ствараецца ў свеце. Пад апекай Найсвяцейшай Маці ў 12-ці капліцах – на ўзор 12-ці зорак у кароне Марыі Каралевы свету – будзе доўжыцца нястомная адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту. Пакуль такія капліцы дзейнічаюць у Еўропе, Азіі і Афрыцы (ёсць надзея, што да малітвы далучацца Аўстралія і абедзве Амерыкі). "Ззяюць" ужо 6 зорак гэтай Кароны. Чарговая капліца будзе адкрыта ў верасні бягучага года ў Непакалянаве (Польшча).

◆ Асацыяцыя каталіцкіх урачоў Партугаліі (AMCP) заклікала прэзідэнта краіны Марсэлу Рэбелу ды Соза накласці вета на новыя палажэнні закона, якія дазваляюць змяняць пол непаўналетнім. Актывісты AMCP заявілі, што гэта "сур'ёзнае злоўжыванне здароўем грамадскасці". Закон не мае навуковай асновы і грунтуецца на гендэрнай ідэалогіі. Яго палажэнні не заахвочваюць да правядзення медыцынскай дыягностыкі па палавой дысфарыі, а таксама ігнаруюць медыцынскую тэрапію, неабходную ў гэтых выпадках.

◆ Манеты, кінутыя турыстамі ў фантан Трэві ў Рыме, пасля будуць перадавацца ў "Карытас", з чаго фінансуюцца, між іншым, пасілкі для ўбогіх, жыллё, медыцынская апека. Гэтае рашэнне датычыцца перыяду да канца бягучага года. Затым сродкі будуць накіраваны таксама мясцовым уладам Рыма, якім неабходна фінансаванне для праектаў салідарнасці і дапамогі. Паводле апошніх даных, у мінулым годзе з фантана было "вылаўлена" каля 1,4 млн еўра.

*credo.pro; niedziela.pl*

# Касцёлы Гродна: якімі іх бачаць экскурсаводы

**Горад над Нёманам лічыцца "самым еўрапейскім" у Беларусі і займае асаблівае месца сярод культурна-гістарычнай спадчыны краіны. Турысты яго любяць і актыўна сюды прыязджаюць. З задавальненнем шпацыруюць па старых вуліцах, дзе адчуваецца подых мінуўшчыны, знаёмяцца з багаццем старадаўніх славутасцей. Можна з упэўненасцю сказаць, што ніводная экскурсія не абыходзіцца без наведвання візітнай карткі горада – каталіцкіх храмаў, адметных прыгажосцю архітэктуры і багаццем гісторыі.**

**У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" прапануем зірнуць на гродзенскія касцёлы вачамі вядомых гісторыкаў і экскурсаводаў Андрэя Вашкевіча і Яўгена Махнача.**

## КАТЭДРАЛЬНАЯ БАЗІЛІКА СВ. ФРАНЦІШКА КСАВЕРЫЯ

Несумненна, кожнага, хто наведвае горад, цікавіць адзін з самых прыгожых і найлепш захаваных касцёлаў у Беларусі – частка буйнога езуіцкага комплексу, паўсталага ў цэнтры Гродна ў XVII–XVIII стагоддзях. ***"Калі вяду турыстаў да Фары, то звычайна пачынаю свой аповед з гісторыі гэтай велічнай святыні ў стылі барока,*** – распавядае Андрэй Вашкевіч. – ***Узгадваю дзейнасць айцоў езуітаў, якія прыбылі ў горад па запрашэнні караля Стэфана Баторыя. Яшчэ ў далёкім 1584 годзе ён стараўся, каб айцы пабудавалі ў Гродне касцёл і калегіум, але жаданням караля было наканавана здзейсніцца значна пазней. Толькі ў 1622 годзе езуіты пасяліліся ў горадзе над Нёманам... Безумоўна, не абмінаю сваёй увагай вежавы гадзіннік – самы стары ў Еўропе, механізм якога да цяперашняга часу працуе лепш за многія сучасныя. Першапачаткова ён упрыгожваў вежу гарадской ратушы на рынначай плошчы, а затым быў перанесены ў касцёл. Зараз вежавы гадзіннік па праву можна назваць брэндам нашага горада".***

Экскурсавод таксама распавядае, што фарны касцёл славіцца сваёй аздобай, прыгожымі алтарамі. ***"Сапраўдным мастацкім шэдэўрам з'яўляецца галоўны алтар з яго драўлянымі фігурамі,*** – гаворыць Андрэй Вашкевіч. – ***Тут заўсёды акцэнтую ўвагу на яго асобных частках. Увагі годныя не толькі фігуры Хрыста, Апосталаў і св. Францішка Ксаверыя, але і трэці ярус, сімвалічны: скульптуры жанчын увасабляюць сабой часткі свету, у якіх езуіты праводзілі місіянерскую дзейнасць. Хоць без бінокля даволі складана дэтальна іх разглядзець, але, тым не менш, чалавек з добрым зрокам можа адрозніць сярод іншых жанчыну з галавой слана. Колер яе скуры цямнейшы за астатніх. Яна сімвалізуе Афрыку. Здараюцца часам і камічныя выпадкі, калі людзі гавораць, што бачаць жанчыну ў працівагазе (смяецца – заўв. аўт.). Таксама заўсёды прашу турыстаў уважліва прыглядзецца да падлогі. На ёй ляжаць пліты, на якіх бачны скамянелыя ракавіны галаваногіх малюскаў, што жылі 450 мільёнаў гадоў таму. У архіўных крыніцах і інвентарах касцёла ўзгадваецца аб «шведскім камені», якім была пакрыта падлога ўнутры касцёла. «Шведскі камень», «шведскі мармур», «lapis sueticus», «шведская падлога» або «вазоўская падлога» – назва папулярнага і вельмі дарагога каменю, які быў распаўсюджаны на нашых землях у XVI–XVIII стагоддзях. Патрапіў ён сюды са Скандынаўскага паўвострава, а менавіта са Швецыі. Адсюль і такая назва. У Гродне са «шведскага каменю» выкладзена падлога ў паезуіцкім і пабернардынскім касцёлах. Магчыма, ім былі аздоблены і іншыя храмы, якія не захаваліся да гэтага часу".***



Андрэй Вашкевіч адзначае, што яшчэ вельмі любіць распавядаць турыстам пра флюгеры ў форме анёлаў на фарным касцёле. Акцэнтуе ўвагу на тым, што яны амаль у чалавечы рост. Іх вышыня дасягае 120 см, хоць, калі глядзім на іх з зямлі, у гэта цяжка паверыць.

Экскурсавод Яўген Махнач падкрэслівае, што фарны касцёл – той прыпанак, без якога не абыходзяцца і яго экскурсіі. ***"Калі заходжу разам з турыстамі непасрэдна ў саму святыню, то вельмі люблю дзівіцца на іх рэакцыю: многія губляюць дар мовы. Заўсёды падкрэсліваю, што касцёл захоўвае гісторыю, расказваю аб розных знакамітых людзях, якія жылі ў Гродне. Пра гэта сведчаць памятныя табліцы на сценах храма. Узгадваю нашага земляка Жыгімонта Урублеўскага, сусветна вядомага навукоўца-хіміка, які ўпершыню ў свеце атрымаў вадкі кісларод. У памяць аб ім у базіліцы ўсталявана мемарыяльная шыльда,*** – гаворыць экскурсавод. – ***Не абмінаю ўвагай пышную стэлу, усталяваную ў памяць аб Антонію Тызенгаўзу. Яна выглядае як надмагілле. Пад стэлай сядзіць жанчына, нібыта муза графа. На яе галаве – карона ў выглядзе гарадской сцяны з вежамі. Гэта сведчыць аб тым, што Тызенгаўз быў выбітным будаўніком горада".***

Яўген Махнач таксама знаёміць турыстаў з гісторыяй фарнай аптэкі, якая з'яўляецца адной з самых старых у Беларусі. Паказвае на будынак калегіума, дзе зараз месціцца турма. ***"Тут узгадваю вядомых вязняў. Распавядаю, між іншым, пра Напалеона Орду, паказваю яго малюнак, на якім адлюстраваны фарны касцёл з боку турмы. Пры гэтым заўсёды жадаю экскурсантам, каб ім ніколі не давялося глядзець на святыню з гэтага ракурсу",*** – з усмешкай гаворыць гісторык.

## МОЛАДЗЬ У КАСЦЁЛЕ

# Спяваць для Пана

**Ужо на працягу 13-ці гадоў пры парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне дзейнічае моладзевы хор "Calasanz". Удзельніцы калектыву суправаджаюць свім спевам нядзельныя літургіі ў касцёле, святочныя набажэнствы. Чым сёння жыве хор? Якія мае планы на будучыню? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае Людміла Казлова, якая кіруе хорам ад часу яго заснавання.**



Людміла Казлова (у цэнтры) разам з харысткамі "Calasanz" падчас Парафіяды дзяцей і моладзі ў Гродне

***– Спадарыня Людміла, распавядзіце, калі ласка, гісторыю ўзнікнення хору.***

– Наш калектыў нарадзіўся ў 2005 годзе. На самым пачатку не існавала такой канкрэтнай ідэі – стварыць хор ці вакальны калектыў. Было проста вырашана сабраць дзяўчат, якія маюць вакальныя здольнасці, каб упрыгожыць спевам фацімскае набажэнства. Выступленне спадабалася а. Віталію Цыбульскаму, які працаваў у парафіі, і ён прапанаваў нам падрыхтаваць спеўнае суправаджэнне св. Імшы. Так мы пачалі збірацца, рэпеціраваць. На той момант нас было ўсяго 5 чалавек. Праз нейкі час пачалі далучацца новыя ахвотнікі, і паступова ўзнік калектыў. Хор назвалі "Calasanz" у гонар св. Юзафа Каласанса, заснавальніка ордэна айцоў піяраў, якія працуюць у шчучынскай парафіі.

***– У хор прымаеце выключна музычна адораных дзяўчат?***

## КАСЦЁЛ МАЦІ БОЖАЙ АНЁЛЬСКАЙ

Экскурсаводы кажуць, што францысканскі касцёл таксама з'яўляецца вельмі знакавым месцам. Безумоўна, турысты ахвотна слухаюць яго гісторыю, знаёмяцца з асобамі а. Мельхіёра Фардона, які ўратаваў ад смерці ў Гродне 13 пажарных, і св. Максімільяна Кольбэ. Дарэчы, сёння ўсіх, хто прыходзіць у гродзенскі касцёл Маці Божай Анёльскай, ля брамы сустракае фігура а. Кольбэ. У самой жа святыні ўсталявана памятная табліца ў гонар святара, а таксама захоўваюцца яго рэліквіі.

***“Акрамя таго, прапануем турыстам узняць свае вочы ўгару і ўважліва паглядзець на велічны дуб. Нездарма звяртаем увагу на гэтае дрэва: на сённяшні момант яно самае старое ў Гродне”, –*** падкрэслівае Андрэй Вашкевіч.



## КАСЦЁЛ АДШУКАННЯ СВЯТОГА КРЫЖА

***“Гэты касцёл – пасля разбурэння Фары Вітаўта – з'яўляецца найстарэйшай каталіцкай святыняй у Гродне. Касцёл цікавы перш за ўсё тым, што сумяшчае ў сабе некалькі архітэктурных стыляў”,*** – гаворыць Андрэй Вашкевіч. Яўген Махнач дапаўняе, што, распавядаючы турыстам пра бернардынскі касцёл, заўсёды ўзгадвае легенду, паводле якой на будаўніцтва святыні болей за ўсіх ахвяравалі салдаты, што вярталіся з перамогай дамоў. І ў памяць аб шчаслівай падзеі “кожны рыцар даў талер з конскага капыта на касцёл, а Леў Сапега, канцлер вялікі літоўскі, сыпануў жменяй тысячу”.

Яўген Махнач таксама зазначае, што, стоячы з групай турыстаў на ўзвышшы ля бернардынскага касцёла, распавядае пра страчаную гістарычную архітэктуру Гродна.

***“Раней Савецкая плошча называлася Плошчай чатырох касцёлаў. Зараз захаваліся толькі 2: не хапае Фары Вітаўта і жаночага бернардынскага кляштара, на месцы якога зараз месціцца драмтэатр. Паводле гарадской легенды, існавалі падземныя хады, якія нібыта маглі злучаць паміж сабой гэтыя храмы, а таксама замкі, выходзячы на супрацьлеглы бок Нёмана. Як з'явілася гэтая байка? Некалі цяперашняя Савецкая плошча, былы рынак, мела вельмі шчыльную забудову. Там была ратуша, палац Радзівілаў, рамесніцкія гандлёвыя рады. Канешне, у гэтых будынках былі падвалы. Сёння тых пабудоў няма, а падвалы засталіся. І калі вядуцца нейкія будаўнічыя працы, здымаецца верхні пласт зямлі, то скляпенні агаляюцца. Людзі бачаць, што там ёсць нейкая прастора, якая нагадвае падземны ход. Такую легенду цікава распавядаць гасцям горада. Мы ж ведаем, што ніводнага доказу існавання гэткіх хадоў знойдзена не было”,*** – гаворыць Яўген Махнач.



## КАСЦЁЛ ЗВЕСТАВАННЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ І КЛЯШТАР БРЫГІТАК

Андрэй Вашкевіч і Яўген Махнач распавядаюць, што паколькі большасць касцёльнай маёмасці была канфіскавана і вывезена з храма, з аўтэнтычнага інтэр'ера амаль нічога не засталося. Найбольшую цікавасць уяўляе сабой тэрыторыя кляштара і старадаўні драўляны лямус. Але, на вялікі жаль, паглядзець на іх зблізку турысты пакуль не могуць, паколькі там вядуцца рэстаўрацыйныя працы. Экскурсаводы гавораць, што звычайна прапануюць турыстам палюбавацца храмам звонку, пры гэтым засяроджваюцца на разынцы касцёла – чорна-белым поясе, на якім адлюстраваны пачвары, што паядаюць чалавечую душу. Аздоба выканана ў тэхніцы зграфіта – відзе аздаблення, якія атрымліваецца ў рэзультаце нанясення на грунт двух і больш розных па колеры слаёў з наступным частковым прадрапваннем па зададзеным малюнку.

***“Шкада, што не заўсёды ёсць магчымасць патрапіць разам з турыстамі і ў музей, які знаходзіцца ў падзямеллях касцёла,*** – гаворыць Яўген Махнач. – ***Там захоўваецца шмат цікавых старадаўніх рэчаў, сярод якіх ёсць арыгінальныя творы мастацтва, напрыклад, абраз «Танец смерці». Ён складаецца з 16-ці сцэн. Цэнтральны сюжэт – 2 д'яблы вудамі ловяць у вадзе людзей, дзе таксама плаваюць каралеўскія кароны і папскія тыяры. Вышэй сядзіць яшчэ адзін д'ябал, у якога з-пад хваста цячэ жоўтая вадкасць і трапляе ў рот яўрэю, адкуль вылятаюць грошы. Ніжэй змешчаны 2 малюнкі. На адным смерць, прадстаўленая ў выглядзе шкілета, які танчыць з натоўпам людзей, на другім – пашча пачварнай жывёліны, якая сімвалізуе пекла. Навокал малюнкі, якія адлюстроўваюць іерархію ўсіх людзей на зямлі ў разнастайных вопратках і з рознымі сімваламі ўлады. Галоўны сэнс малюнкаў і подпісаў пад імі – паказаць марнасць чалавечага жыцця, бяссільнасць улады і багаццяў перад смерцю, неабходнасць імкнення да вечнага жыцця ў небе”.***

Андрэй Вашкевіч і Яўген Махнач рэзюмуюць, што апошнім часам у сувязі з увядзеннем бязвізавага рэжыму Гродна актыўна наведваюць турысты з Польшчы і Літвы. Нягледзячы на тое, што ў гэтых краінах захавалася шмат старадаўніх святынь, замежныя госці заўсёды прыходзяць у захапленне ад убачанага і прызнаюцца, што не чакалі сустрэць такія ўнікальныя помнікі архітэктуры. Адзінае пажаданне, якое выказваюць экскурсаводы, – гэта каб святыні былі ўвесь час па магчымасці адчынены для турыстаў, бо на сёння не ў кожную з іх можна свабодна патрапіць.

*Кінга Красіцкая*

---

– Не і яшчэ раз не. Некаторыя з іх нават ніколі не спявалі, але хочуць гэтаму навучыцца. І што ж, не даць такой магчымасці? Хтосьці, паназіраўшы за нашымі выступленнямі, захацеў і сам паспрабаваць, кагосьці прывялі сяброўкі. Лічу неабходным, каб кожны жадаючы мог праявіць свае творчыя здольнасці ў нашым хоры. Для гэтага штогод робім праслухоўванне для новых ахвочых. Заўважаю, што многія нават не ведаюць аб такім сваім дары, атрыманым ад Усявышняга, як цудоўны голас. Таму мая задача як кіраўніка – раскрываць таленты і пасля ўдасканальваць майстэрства вучаніц.

Трэба адзначыць, што у “Calasanz” моладзь прыходзіць не дзеля карысці, а таму што іх цягне і кліча сюды душа. Яны хочуць атрымаць эстэтычнае задавальненне, сустрэцца з музыкай. Гэта дарагога варта. Я ж павінна падтрымліваць зацікаўленасць у калектыве, рабіць так, каб дзяўчатам хацелася прыходзіць на рэпетыцыі зноў і зноў, хацелася спяваць у хоры.

У працэсе, вядома ж, хтосьці адсейваецца, а хтосьці застаецца і ўліваецца ў асноўны склад хору. Згодна з традыцыяй, кандыдаткі далучаюцца да парафіяльнага хору ва ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету. Яны складваюць абяцанні, просячы заступніцтва св. Юзафа Каласанса, і атрымліваюць падвескі ў выглядзе ключа – знак прыналежнасці да хору.

***– Удзельніцамі хору з'яўляюцца дзяўчаты, якія ахвотна дзеляцца сваімі талентамі і спяваюць для Пана. Якая яна – моладзь, што прыходзіць у калектыў?***

– Пастаянны актыў – вучаніцы 8–11 класаў. Калі выпускніцы становяцца студэнткамі, на іх месца прыходзяць новыя ўдзельніцы. Такім чынам, склад калектыву пастаянна абнаўляецца. Але хачу падкрэсліць, што ў нас няма такога паняцця, як “былая харыстка”. Дзяўчаты, якія выязджаюць на вучобу ў іншыя гарады, усё роўна вяртаюцца дамоў на святы, выхадныя. Мы сустракаемся і разам спяваем падчас св. Імшаў і ўрачыстасцей.

Нягледзячы на тое, што склад удзельніц увесь час змяняецца, стараемся трымаць планку, знаходзіцца ў бесперапынным творчым пошуку, працаваць над рэпертуарам і паляпшэннем свайго выканаўчага майстэрства. Я заўсёды кажу дзяўчатам: “Хор – гэта ты. Канкрэтна ты!”. Вучу іх адказнасці, вучу паважаць тыя традыцыі і тую атмасферу, якая ствралася ў калектыве намаганнямі іншых удзельніц. Стараюся, каб мае дзяўчаты былі самымі лепшымі: творчымі, пазітыўнымі, імкнуліся наперад, развіваліся самі, уздымалі калектыў на новы ўзровень, а таксама нястомна праяўлялі актыўнасць у парафіі.

***– Якая асноўная мэта дзейнасці вашага парафіяльнага хору?***

– Дзяліцца сваімі сіламі і талентам з іншымі, рабіць так, каб спеў станавіўся не проста наборам прыгожых гукаў і мелодый, а сапраўднай малітвай. У гэтым, напэўна, і заключаецца сэнс.

Падчас рэпетыцый мы не зацыкліваемся выключна на музыцы і вакале. Хочацца, каб дзяўчаты не толькі вучыліся чыста, прыгожа і правільна спяваць па нотах, але і каб падчас выканання таго ці іншага твора яны думалі, пра што спяваюць, прапускаючы праз сваё сэрца словы і мелодыю. Рэлігійная музыка – цэлы сусвет! Яна дапамагае адкрыцца Богу, глыбей перажыць св. Імшу. Акрамя таго, супольны спеў зближае людзей, дазваляе адчуць хрысціянскую еднасць. Як сказаў св. Аўгусцін, “хто спявае, той моліцца двойчы”. Для нас гэта вельмі важныя словы.

У планах – не толькі ўпрыгожваць сваім спевам набажэнствы, але пачаць часцей выходзіць за межы святыні, каб праз выступленні евангелізаваць асяроддзе, у якім жывём.

*Хор “Calasanz” вядомы сваімі шматлікімі выступленнямі і ўзнагародамі. Калектыў быў неаднаразова адзначаны на разнастайных фестывалях, якія праходзілі ў Гродне, Васілішках, Жалудку, Ражанцы (Шчучынскі р-н). Выступаў таксама і ў многіх парафіях, суправаджаючы Эўхарыстыю музычным акампанементам. Некаторыя ўдзельнікі хору прадстаўлялі сваю моладзевую школу па-за межамі краіны.*

*Кінга Красіцкая*

---

### З КАТАЛІЦКІХ СМІ



**Вучні Бенедыкта XVI збяруцца ў Італіі**

***Сустрэча дактарантаў Ёзафа Ратцынгера адбудзецца ў Кастэль-Гандольфа і будзе прысвечана тэме “Касцёл і дзяржава. Касцёл і грамадства”.***

*Упершыню ў пасяджэнні аб'яднання “Кола вучняў Ратцынгера” прымуць удзел члены “Новага кола вучняў” – маладыя даследчыкі навуковай спадчыны Бенедыкта XVI, якія не былі яго непасрэднымі студэнтамі.*

*Члены “Кола вучняў Ратцынгера” сустракаюцца рэгулярна з 1977 года. У яго ўваходзяць асобы, якія пад кіраўніцтвам Папы на пенсіі пісалі доктарскія дысертацыі ці былі яго памочнікамі. На працягу апошніх гадоў Бенедыкт XVI не прымае ўдзел у пасяджэннях, але заўсёды імкнецца знайсці час, каб памаліцца разам з былымі студэнтамі або пазнаёміцца з вынікамі іх дыскусій.*



**Папа благаславіў пінскую семінарыю**

***Адмысловая сустрэча супольнасці Міждыяцэзіяльнай ВДС са Святым Айцом Францішкам адбылася ў Рыме.***

*Напачатку семінарысты і святары-фарматары на чале з біскупам Пінскім Антоніем Дзям'янкам прынялі ўдзел у сустрэчы Святога Айца з вернікамі на плошчы св. Пятра. Пасля заканчэння агульнай аўдыенцыі адбылася спецыяльная і непасрэдная сустрэча з Пантыфікам. Вітаючы супольнасць навучэнцаў і фарматараў, Папа ўдзяліў семінарыі апостальскае благаслаўленне.*



**Фатограф года выбраны за здымкі з пілігрымак**

***Аліс Томлінсан з Вялікабрытаніі атрымала галоўную ўзнагароду ў найбуйнейшым Сусветным конкурсе фатаграфіі “World Photography Awards” за “духоўную моц” праекта “Ex-Voto”. Гэта серыя чорна-белых фотаздымкаў на тэму пілігрымак, здзейсненых у такія месцы, як Лурд (Францыя), Балівурні (Ірландыя) і Грабарка (Польшча).***

*Як успамінае Аліс, некаторыя пілігрымы не хацелі, каб іх фатаграфавалі. Але многія пазней былі ў захапленні, калі разглядалі яе працы, у тым ліку партрэты і пейзажы (напрыклад, здымкі драўляных крыжоў ці нататкі, напісанай на складзеным кавалку паперы і клапатліва схаванай у расколіне скалы).*

*“Аліс Томлінсан – годная пераможца, якая расказвае гісторыю так прыгожа, так ціха, але з духоўнай моцай, што адлюстроўвае адчувальную зацікаўленасць тэмамі і месцамі”, – сказаў старшыня журы конкурсу Майк Троу.*




## Як не падаць духам, калі не бачыш плёну малітвы?

*Малітва павінна быць дыялогам з Богам, а не маналогам ці патрабаваннем. Малітва – гэта сяброўская размова з Тым, пра каго ведаем, што Ён нас любіць. Варта таксама памятаць, што хоць мы і з'яўляемся дзецьмі Божымі, але ж застаёмся стварэннямі недасканалымі, якія нават падчас малітвы падуладныя сваім упадабанням і суб'ектыўнасці. Менавіта таму Пан Езус, пакідаючы нам праз Апосталаў малітву "Ойча наш...", змясціў у ёй словы "будзь воля Твая". Каб малітва была плённаю, варта даверыць апошняе слова Найвышэйшаму, які ўсё ведае лепш за нас. У малітве трэба імкнуцца не столькі бачыць яе плады, колькі ўмацоўвацца ў веры, надзеі і любові.*

*Працей кажучы, нашае заданне – не ўпасці духам, а плён малітвы неабходна пакінуць Божаму Провіду. Дарэчы, здолеем яго ўбачыць і распазнаць толькі ў вечнасці, калі зможам паглядзець на нашае жыццё праз прызму Божай святасці і ўсемагутнасці. І нават калі Найвышэйшы выслухаў пэўную малітву, усё роўна трэба маліцца. Асабліва, калі малітва датычыць родных і блізкіх. Бог шануе нашу вольную, хоць і слабую волю, таму трэба вучыцца найперш шанаваць Яго волю – святую і ўсемагутную.*

*Звернем увагу на некалькі неабходных умоў для таго, каб малітва была шчырай і вернай.*

*Любоў. Без любові няма сяброўства. Малітва – гэта любоў Бога да чалавека і чалавека да Бога.*

*Утаймаванне. Жыццё малітвы патрабавальнае. Нельга размаўляць адначасова і з Богам, і са светам. У малітве павінен быць зварот да Бога. Калі так не атрымліваецца, трэба спрабаваць нанова: паступова ўтаймоўваць сваю волю і жаданні.*

*Непахіснасць. Трэба не пакідаць аднойчы абранага шляху малітвы. Бог не ламае нашу волю – Ён дае столькі, наколькі мы Яму давяраем. Непахіснасць павінна спалучацца з даверам. Рэгулярная медытацыя вядзе да паглыблення малітвы, таму варта выпрацоўваць у сабе гэты навык.*

*Пакора. Хрысціянская малітва з'яўляецца дарам ласкі, а не плёнам уласных здольнасцей. Св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус вучыць нас станавіцца перад Богам з пустымі рукамі. Важна прызнанне сваёй грэшнасці і цнота пакоры ў падрыхтоўцы душы да сузірання. Калі ёсць самаўпэўненасць, ёсць і стомленасць ад малітвы. У сузіранні заключаецца наша сувязь з Панам Богам, якая ператвараецца ў сяброўства.*

*Пан Езус ніколі не абяцаў тут, на зямлі, лёгкага і бесклапотнага жыцця, наадварот, казаў пра выпрабаванні і неабходнасць чування. Таму мы, хрысціяне, як ніхто іншы на гэтым свеце, пакліканы самім Божым Сынам да таго, каб заўсёды маліцца і ніколі не падаць духам. Хто вытрывае да канца, той будзе збаўлены (параўн. Мц 24, 13).*

*А. Юрый Кулай OCD*
***Паводле ave-maria.by***

# З назіранняў шматдзетнай маці

## ДА ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ МАЦІ



*Дзеці Наталлі і Леаніда па старшынстве: Аляксандр (22 гады), Лізавета (19 гадоў), Мікіта (17 гадоў), Карына (15 гадоў), Дамініка (11 гадоў), Мацвей (9 гадоў), Данііл (7 гадоў), Агата (6 гадоў), Арсеній (3 гады), Артур (3 месяцы)*

У невялікай в. Буцілы Лідскага раёна жыве вялікая дружная сям'я Сурвіла. Наталля і Леанід выхоўваюць дзесяцярых дзяцей! Старэйшаму – 22 гады, малодшаму – 3 месяцы. Сёння Наталля як вопытная маці нагадае бацькам пра простыя ісціны, якія на першы погляд могуць падавацца банальнымі, аднак з'яўляюцца фундаментальнымі ў будаванні добрай сям'і. Заснаваныя на шматгадовых назіраннях, яны датычаць карэктнага і эфектыўнага выхавання дзяцей, а таксама здаровай увагі бацькоў да сваіх інтарэсаў.

### БІЗУНОМ І ПЕРНІКАМ, АБО ПРА ПАКАРАННІ І СТЫМУЛЫ

*Многія сучасныя бацькі ўпадаюць у крайнасці: выхоўваюць дзяцей або занадта строгімі метадамі, або песцяць, на многае закрываючы вочы. Ва ўсім належыць ведаць меру. Калі дзіцё робіць нешта дрэннае, трэба абавязкова павучыць яго, прысароміць, а часам і пакараць, каб адчувала віну за здзейсненае. Калі на такія выпадкі не звяртаць належнай увагі, дзіця ўбачыць, што яго "пранесла", і, вельмі верагодна, паўторыць усё зноў. Без згрызотаў сумлення.*

*Адваротная сітуацыя з тым, калі дзіця робіць нешта добрае. Часцей за ўсё, калі яно не бачыць ніякай рэакцыі на свае "подзвігі", у далейшым можа больш да таго не вярнуцца. Пахвала ці нейкая маленькая ўзнагарода стымулюе, падбадзёрвае. Тады ў дзяцей звычайна з'яўляецца азарт да выканання пэўных спраў. І гэта не дрэнна, бо паступова ўнутраныя перажыванні сціхнуць, а на месца ім прыйдзе сапраўднае разуменне таго, што стаіць за добрым учынкам.*

### ГАЛОЎНАЕ, ШТО ТРЭБА ПЕРАДАЦЬ ДЗЕЦЯМ

*Вельмі важна данесці дзецям, што трэба вучыцца. Я вось не паспела атрымаць прафесію, таму асабліва востра разумею, як гэта патрэбна чалавеку ў жыцці. Не ленавацца! Тое ж датычыць і любога іншага занятку. Напрыклад, выхоўваючы ў дзецях любоў да працы, мы, бацькі, клапоцімся пра іх будучыню. Па-першае, малады чалавек вырастае моцным, самастойным. Па-другое, шануе чужую працу. Тут таксама вызначальным з'яўляецца асабісты прыклад. Наш тата па магчымасці ўсім дапамагае, таму дзеці бачаць гэта і з гонарам імкнуцца пераймаць бацьку.*

*І, найважнейшае, трэба жыць з Богам! Упэўнена, што з верай людзі становяцца дабрэйшымі, паважаюць бліжняга, адкрываюцца на яго. З верай чалавек ніколі не прападзе! Таму рэлігійнае выхаванне варта распачынаць як мага раней. Мяркую, што першыя крокі ў гэтым накірунку можна рабіць, калі дзіця знаходзіцца ў 3-гадовым узросце.*

### ЧАС НА СЯБЕ – НЕ ПАЖАДАНЫ, А НЕАБХОДНЫ!

*Дзеці – наша ўсё. Вядома. Але часам віхор штодзённых спраў і абавязкаў так закруціць, што і пра сябе забываешся. А так быць не павінна. Кожны чалавек мае патрэбу ў тым, каб мець хоць крыху часу на сябе, на аднаўленне сіл. Напэўна, я не самы добры таму прыклад: ужо 2 гады збіраюся на прыём да ўрача. Але разумею, што павінна знайсці гэты самы час, бо калі ў цябе яго зусім няма, то ён ператвараецца літаральна ў жыццёвую неабходнасць.*

### НЕПАРАЗУМЕННІ: АСТУДЗІЦЬ ЭМОЦЫІ

*У кожнай без выключэння сям'і здараюцца сітуацыі, калі бацькі і дзеці не могуць знайсці агульнай мовы па нейкім пытанні. І тады часта ў ход ідзе "цяжкая артылерыя": крыкі, пагрозы, нават шантаж. Перамагае той, хто больш устойлівы псіхічна. Або, увогуле, пытанне можа застацца нявырашаным. Як быць?*

*Адразу трэба заўважыць, што калі эмоцыям падаюцца бацькі, то памылку тут дапускаюць менавіта яны, таму што падобныя паводзіны дзяцей можна растлумачыць узроставай несфарміраванасцю. Я, напрыклад, даю сабе час, калі не магу "дастукацца" да свайго дзіцяці. Памаўчу, падумаю і праз некаторы час зноў вяртаюся да папярэдняй размовы ўжо з новымі аргументамі. Неабходна, каб дзіця прыняло твой пункт гледжання не са скрыгатаннем зубоў, але згаджаючыся, што так для яго будзе толькі лепш. Галоўнае – любіць сваіх дзяцей! Любоў з'яўляецца ключом ад усіх зачыненых дзвярэй.*

### ЗНАЧНАСЦЬ СЯМЕЙНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

*Усё менш і менш назіраем захаванне і перадачу нейкіх звычаяў у сем'ях. І тут вызначальным з'яўляецца нават не "што", а "навошта". Калі існуе пэўны парадак адносна некаторых спраў, якія датычыць кожнага ў сям'і, то сям'я больш з'яднана.*

*Не скажу, што мы маем нейкія неардынарныя традыцыі, але працуем і адпачываем супольна. На святы – Вялікдзень і Божае Нараджэнне – збіраемся разам. Наведваем бабулю, старэйшага члена нашай сям'і. Прыбіраем магілкі. З маленства вучу дзяцей, што варта шанаваць памяць продкаў. Старэйшым наказваю клапаціцца пра малодшых, малодшым – раўняцца на старэйшых. Мабыць, гэта такія простыя і відавочныя рэчы, але на іх, як мне здаецца, і трымаецца шчаслівая сям'я.*

А сям'я Наталлі ды Леаніда і праўда шчаслівая! Як гавораць сужэнцы, "канешне, усяго ў жыцці хапае, але мы найперш дзякуем Богу за магчымасць рэалізацыі такой адказнай і нялёгкай місіі, як гадаванне дзяцей". Сыны і дочкі з маленства вучацца дапамагаць бацькам па гаспадарцы, з хатнімі справамі. Старэйшыя, якія жывуць асобна, калі вяртаюцца з працы ці вучобы дадому, абавязкова нешта прывозяць для малодшых: парадаваць. І так "сямейнае кола" круціцца, не спыняючыся... А ці не ў гэтым сапраўднае людское шчасце?

*Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ



### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ БЕЛАРУСКАМОЎНАГА НОВАГА ЗАПАВЕТУ І АСВЯЧЭННЕ ІНФАРМАЦЫЙНА-ТУРЫСТЫЧНАГА ЦЭНТРА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Прэзентацыя першага афіцыйнага рыма-каталіцкага выдання Новага Запавету на беларускай мове адбылася ў гісторыка-мастацкім музеі ў Лідзе (раней – у Мінску). У мерапрыемстве прынялі ўдзел Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, старшыня Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ кс. кан. Ян Крэміс, доктар біблійнай тэалогіі с. Марына Пашук, пробашч мясцовай парафіі Узвышэння Святога Крыжа кс. кан. Уладзімір Гуляй, каталіцкія, праваслаўныя і грэка-каталіцкія святары, прадстаўнікі дзяржаўнай улады і шматлікія вернікі. Прэзентацыя завяршылася канцэртам духоўнай музыкі.

Асвячэнне Інфармацыйна-турыстычнага цэнтра Гродзенскай дыяцэзіі, які знаходзіцца пры пабрыгіцкім кляштары ў Гродне, было здзейснена біскупам Аляксандрам Кашкевічам. Пасля афіцыйнага ўвядзення ў эксплуатацыю ў сценах Цэнтра плануецца актыўна папулярызаваць турыстычны патэнцыял дыяцэзіі.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Аляксандр Кашкевіч сустрэўся з Душпастырствам чыгуначнікаў у касцёле Святой Сям'і ў Лідзе, дзе ўзначаліў св. Імшу ў іх інтэнцыі. Падчас візіту ў парафію ў Новую Руду (дэканат Гродна-ўсход) іерарх удзяліў мясцовым вернікам сакрамант канфірмацыі.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў касцёл св. Юрыя ў Варнянах, дзе памаліўся разам з парафіянамі, а таксама капліцу св. Юрыя ў Вароне (дэканат Астравец).

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Апошні час у семінарыі выдаўся насычаным. Навучэнцы на чале з прэфектам кс. Андрэем Лішко мелі магчымасць прыняць удзел у спаборніцтвах па валейболе, якія праходзілі ў Вільнюсе (Літва) паміж камандамі семінарыстаў з розных куткоў Прыбалтыкі. Каманда вярнулася з перамогай. Пасля клерыкі разам з выкладчыкамі Гродзенскай ВДС выехалі ў Чанстахову (Польша) на міжнародную сустрэчу семінарыстаў. Па вяртанні алюмні наведалі дзяцей з радунскага дома-інтэрната, а таксама састарэлых і хворых у Доме міласэрнасці ў Каменцы.

З канцэртам у парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах выступіў музычны гурт "AVE". Падчас выступлення клерыкі прэзентавалі свой новы альбом пад назвай "Адысці мне не дазволь".

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



Айцы Ордэна Пабожных Школ (піяры) са Шчучына па традыцыі – ужо ў 7-мы раз – арганізавалі для мясцовых выпускнікоў пілігрымку ў Будслаў. Маладыя людзі мелі магчымасць памаліцца ля цудатворнага абраза Маці Божай аб выбары добрай будучыні. Па дарозе моладзь таксама наведала шмат іншых святынь і цікавых месцаў.

Для маладых людзей, якая рыхтуюцца да прыняцця сакраманту канфірмацыі, айцамі піярамі быў арганізаваны дзень засяроджання. Яго праграма прадугледжвала св. Імшу, канферэнцыю і працу ў групах.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Велікодныя прадстаўленні і канцэрты адбыліся ў парафіях Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне і Святога Духа ў Гродне, а таксама ў аддзеле хоспіс пры Гарадской клінічнай бальніцы №2 у Гродне. • У офісе "Цэнтра Дапамогі Жыццю" вікарый гродзенскага касцёла Маці Божай Анёльскай а. Павел Раманчук OFMConv правёў адукацыйную сустрэчу для людзей, якія клапоцяцца пра пацыентаў хоспіса. • Прэзентацыя фотаальбома "Містэрыя Гервятаў" аўтарства Валерыя Вядрэнкі адбылася ў касцёле свсв. Сымона і Алены ў Мінску. • У будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне прайшоў дзень засяроджання святароў, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, а ў дыяцэзіяльным санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі – фармацыйная сустрэча для маладых ксяндзоў (1-8 гадоў святарства).

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

---

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку, яго маме і ўсім родным**
у сувязі са смерцю бацькі выказваем словы шчырага жалю, спачування і хрысціянскай падтрымкі. Яднаемся з Вамі ў малітве, падзяляючы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог прыме спачылага ў сваё Валадарства, а Вам дадасць сілы, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для душы памерлага.

*Былыя парафіяне са Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
перасылаем словы шчырага спачування і жалю ў сувязі з адыходам у вечнасць брата. Няхай Бог прыме яго ў Нябеснае Валадарства! Падтрымліваем Вас у малітве.

*Сям'я Воранавых са Смаргоні*

---

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна;*
**12 мая 1977 г.** – кс. Клеменс Півавbooрун, *проб. Васілішкі;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр'ян Голяк, *проб. Ашмяны.*

## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ МАЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Мерапрыемствы па традыцыі праходзіць у першую нядзелю мая. У святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі моляцца за жанчын, якія далі ім жыццё, а для памерлых мам просяць вечнага шчасця ў небе.**

Сёлетняя ўрачыстасць адбудзецца 6 мая ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы. У гэты дзень туды вырушыць пешая пілігрымка з Гродна. Да ўдзелу запрашаюцца маці, а таксама ўсе жанчыны, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.

**Праграма:**

07.00 – св. Імша ў касцёле Маці Божай Анёльскай (францысканскі),
08.00 – выхад пілігрымаў,
12.00 – прывітанне пілігрымкі кусташам санктуарыя ў Капцёўцы, адпачынак і гарбата,
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці,
13.15 – канферэнцыя,
14.00 – Крыжовы шлях,
15.00 – св. Імша,
16.30 – ад'езд аўтобусамі ў Гродна.

### АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС СЯМЕЙНЫХ РУХАЎ ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**1–3 чэрвеня ў Баранавічах арганізуецца III Агульнабеларускі кангрэс сямейных рухаў. Ён адбудзецца пад назвай "Евангелле сям'і – радасць для свету" і стане падрыхтоўкай да IX Сусветнай сустрэчы сем'яў у Дубліне (Ірландыя).**

**Праграма:**

***1 чэрвеня, пятніца***
17.00 – адкрыццё кангрэса,
17.30 – інаўгурацыйны даклад "Чаму сям'я мае важнае значэнне для Касцёла" (дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB),
18.15 – св. Імша, якую ўзначаліць біскуп Аляксандр Яшэўскі,
19.15 – вячэра,
20.30 – канцэрт гурта "Laudans".

***2 чэрвеня, субота***
8.00 – сняданак,
9.00–9.45 – даклад "Канцэпцыя сям'і паводле розных філасофскіх напрамкаў" (кс. Андрэй Рылка),
10.00–11.00 – даклад "Касцёл у служэнні сям'і" (кс. Пшэмыслаў Дронг),
11.00–11.30 – перапынак на каву,
11.30–13.00 – даклад "Фарміраванне чалавека ў сям'і" (Станіслаў Дземян),
13.00 – св. Імша, якую ўзначаліць кс. Андрэй Рылка,
14.00 – абед,
15.00–16.00 – даклад "Выкарыстанне прэвентыўнага метаду кс. Яна Боско ў сям'і" (кс. Павел Шчарбіцкі),
16.15–17.45 – даклад "Сужэнская духоўнасць у аспекце Amoris Laetitia" (кс. Пшэмыслаў Дронг),
18.00 – вячэра,
19.00 – дыскусія.

***3 чэрвеня, нядзеля***
07.00 – св. Імша, якую ўзначаліць біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоній Дзям'янка,
8.00 – сняданак,
9.00–12.00 – даклад "Новы падыход у падрыхтоўцы да сакраманту сужэнства" (+ майстар-клас, Віялета Віткаускенэ),
12.00 – абед.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

**Парафія св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску ладзіць паломніцтва, праграмай якога прадугледжваецца наведванне Сіёнскай гары, Даліны плачу, месцаў, дзе пастушкам у ноч Божага Нараджэння аб'явіўся анёл, Хрыстом была прамоўлена Нагорная пропаведзь і інш. Пілігрымы атрымліваюць магчымасць апынуцца ў Гефсіманскім садзе, дзе Збаўца горача маліўся ў ноч арышту, і прайсці шляхам Віа Долароза (крыжовым шляхам Езуса). Праграмай паломніцтва прадугледжваецца таксама адпачынак на марскім узбярэжжы.**

**Выезд** – 11 кастрычніка.

**Працягласць пілігрымкі** – 8 дзён.

*Тэлефон для даведак: (8 029) 313-65-64, кс. Алег Дуль.*

## Каляндар падзей

***1 мая***
*Распачацце маёвага набажэнства.*

***3 мая***
*Дзень імянін кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча, пастыра дыяцэзіі. Даручаем у малітве шаноўнага Імянінніка.*

***6 мая***
*Дыяцэзіяльны дзень маці. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых мам.*

***9 мая***
*Дзень малітвы за ахвяр II Сусветнай вайны і за мір ва ўсім свеце.*

***10 мая***
*Урачыстасць Унебаўшэсця Пана.*

***11 мая***
*Распачацце Навэнны перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Каб пастырам Гродзенскага Касцёла Пан Бог удзяляў неабходную дапамогу ў служэбе Божаму люду дыяцэзіі.*

ЧАМУЧКІ
Дзіцячая рубрыка

## Чаму ў месяцы маі людзі шмат моляцца да Марыі?



**Май – час асаблівага шанавання Маці Божай у Касцёле. У гэтым месяцы шматлікія вернікі збіраюцца ў святынях, пры гротах, дарожных капліčках, дзе знаходзіцца фігурка Марыі, каб разам спяваць Ларэтанскую літанію і праслаўляць Найсвяцейшую Маці прыгожымі малітвамі і спевамі.**

**Вытокі "маёвага" культу сягаюць V-VI стагоддзяў. Ужо тады ў Грэцыі, Сірыі і Святой Зямлі хрысціяне збіраліся (асабліва ў маі) каля выявы Маці Божай, каб разам маліцца. На Захадзе набажэнствы да Найсвяцейшай Панны Марыі бяруць пачатак у XIII-XIV стагоддзях. Гэтую традыцыю распачаў іспанскі кароль Альфонс X. Пасля яна распаўсюдзілася ў Партугаліі, Італіі і частках Германіі. Аднак заснавальнікам маёвых набажэнстваў у цяперашнім выглядзе лічаць а. Альфонса Мадзоралі, італьянскага езуіта з Ферары. У 1815 годзе папа Пій VII зацвердзіў маёвыя набажэнствы ў Касцёле, пасля чаго яны хутка распаўсюдзіліся па ўсім хрысціянскім свеце.**

**Маёвыя набажэнствы – гэта нагода для радаснай сустрэчы з Марыяй, магчымасць адказаць Маці Божай узаемнай любоўю і падзякаваць Ёй за нястомную апеку, бо, як ведаем, Марыя ніколі не пакідае чалавека, які аддаўся Яе заступніцтву. Пра гэта сведчыць цікавае апавяданне святара-салезіяніна Бруна Фэрэра "Фігурка на полі".**

Ян Марыя Віянэй з Арс, які пазней стаў святым, меў старэйшага брата Францішка. Той заўсёды высмейваў яго, што часта здараецца паміж дзецьмі. Але аднойчы малодшы брат "адпомсціў" старэйшаму.

Неяк адна паважаная жанчына падарыла Яну фігурку Марыі, і ён паставіў яе на тумбачцы. Калі братоў выслалі працаваць у поле, Ян узяў фігурку Маці Божай з сабой. Францішку, які быў больш і мацнейшы, заўсёды ўдавалася абагнаць брата і першаму скончыць працу. Але на гэты раз Ян капаў і… маліўся, ставячы фігурку Марыі на некалькі крокаў перад сабой. Калі даходзіў да яе, зноў пераставяў на некалькі крокаў уперад. І, здавалася, зусім не адчуваў стомленасці.

– Я змагу! – паўтараў сабе і паглядаў на Марыю, якая пяшчотна ўсміхалася яму. Гэтага было дастаткова, каб узмоцніць намаганні. І Ян працягваў заставацца нароўні са сваім старэйшым братам.

Увечары Францішак, трохі незадаволены, прызнаўся маці, што Ян працаваў на адным узроўні з ім. Але пасля дадаў: "Аднак стаўка не была справядлівай! Я быў сам, а яму дапамагала Найсвяцейшая Панна Марыя".

**Няхай жа і нашы спевы ды малітвы да Маці Божай будуць прыгожымі, а Яна няхай усміхнецца кожнаму з нас і адорыць сваімі ласкамі!**

**Заданне:** зрабі разам з бацькамі прыгожую капліčку, каля якой будзеш маліцца да Марыі на працягу месяца мая.

Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай кожны дзень стараннай працы будзе асвечаны святлом Святога Духа, а Бог заўсёды Вас аберагае і ўзнагароджвае за ўсё праз нашы малітвы. Памятаем і молімся.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае асаблівымі ласкамі, Езус Хрыстус будзе прыкладам і праваднікам на ўсіх шляхах, Святы Дух апраменьвае сваім святлом і надзяляе надзвычайнай харызмай, а ў сэрцы Найсвяцейшай Маці заўсёды для Вас будзе суцяшэнне як для Яе любімых сыноў.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў: здароўя на доўгія гады, радасці і ўсяго найлепшага. Няхай святы Заступнік і Маці Божая атуляюць сваёй апекай, а Дух Святы асвячае святарскі шлях. Дзякуем за прыклад веры і набожнасці!

*Ружанцовыя колы і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, патрэбных ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці, моцнага здароўя, прыгожага і шчодрага плёну ў святарскай паслузе. Няхай святы Заступнік заўсёды дапамагае.

Мы шчаслівыя, што Вы адказалі на Божы голас, і зараз можам цешыцца такім святаром, які годна працуе на ніве Пана. Чакаем чарговай сустрэчы!

*Касцёльны камітэт і парафіяне, Геранёны*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Пан дадае Вам моцы, Дух Святы адорвае мудрасцю і супакоем, а Маці Божая і святы Заступнік заўсёды абараняюць і берагуць. Выказваем Вам вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве, за мудрую навуку, якая дапамагае нам быць сапраўднымі хрысціянамі, за імкненне наблізіць нас да Бога. Выпрошваем ва Усемагутнага для Вас усе неабходныя ласкі, а таксама дар здароўя, якое неабходна для служэння.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла Узвышэння Святога Крыжа, Жырмуны*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Барташэвічу і Юрыю Ясевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, дабрыні ад людзей і поспехаў ва ўсім.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне, Беняконі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя віншаванні, спалучаныя з малітвай. Жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, дароў Святога Духа, радасці, аптымізму, моцнага здароўя. Няхай Вашае сэрца напаўняюць любоў, надзея і супакой. За ўсё дабро, за скарбы веры, плён працы, разважлівасць, чулае сэрца і лагодную ўсмешку мы вельмі ўдзячны Вам. Дзякуем за клопат аб нашай святыні і парафіянах, а таксама за тое, што Вы з намі і для нас.

*З павагай, вернікі з Цудзенішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Юрыю Павайбу і Юрыю Свіслоцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому даверыліся, благаслаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, шчасця, аптымізму і душэўнага супакою.

*Апостальства "Маргарытка", Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення, мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Новы Двор*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Імянін жадаем шмат Божых ласкаў, здароўя, сілы, сталай апекі Найсвяцейшай Маці і людской добразычлівасці. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае пераадолець усе цяжкасці, а Божае слова, якое засяваецца ў нашых сэрцах, прынясе сторазовы плён.

*Апостальства "Маргарытка" з Гродна і Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем шчодрага плёну на Божай ніве, апекі Найсвяцейшай Маці ў пачэснай справе весці нас па дарозе да Айца. Вельмі ўдзячныя Вам за сумленнасць і адданасць Божай справе, за шчырасць, добрае сэрца і лагодную ўсмешку.

*Ружанцовыя колы, Суботнікі*

**Паважаны Ксёндз Віктар Захарэўскі!**

Дарагі, любімы і верны пакліканню Душпастыр, якога Бог нам паслаў!

З нагоды Дня нараджэння прыміце самыя сардэчныя пажаданні. Жадаем, каб жылі спакойна і шчасліва на нашай слёз даліне, каб у здароўі і радасці неслі паслугу на даручанай Вам Божай ніве. А колькі знічак з неба пазірае, столькі сіл і мудрасці мы Вам жадаем! Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца на працягу доўгіх гадоў жыцця. Дзякуем бацькам за сына святара.

*Вернікі з касцёла Божага Цела, Дварэц*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля, душэўнага супакою і штодзённай радасці. Няхай Пан Бог ахіне Вас усімі неабходнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца і суправаджае на дарозе жыцця, а побач будуць добразычлівыя людзі. Аддзяч, Божа, за шчодры плён святарскай працы!

*Парафіяне з касцёла Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шмат сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары, а Анёл-ахоўнік суправаджае па дарозе паклікання. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і добрых людзей побач.

*З малітвай, парафіяне з в. Моцевічы*

**Паважанаму Айцу Віталію Юркевічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мар'яну Хаменю**

з нагоды Імянін жадаем усяго самага найлепшага. Няхай Бог адорвае здароўем і любоўю. Жадаем таксама апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Няхай Анёл-ахоўнік аберагае Вас у кожную хвіліну жыцця і апекуецца Вамі. Шчаслівай працы на кожны дзень святарскай паслугі!

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Вайцяхоўскаму**

з нагоды прызначэння на пасаду рэктара Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі шчыра жадаем стойкасці і адвагі ў рэалізацыі пастаўленых мэт. Няхай не будзе нястачы ў людской зычлівасці і падтрымцы ва ўсіх клопатах і пачынаннях на карысць семінарыйнай супольнасці. Жадаем таксама шмат здароўя, поспехаў, мудрасці і ўсяго найлепшага на гады рэктарскай паслугі.

*Мама, хросная і сястра з сям'ёй*

**Паважаным Ксяндзам Анджэю Ганчару і Андрэю Бялаблоцкаму**

з нагоды 1-ай гадавіны святарства перасылаем букет сардэчных пажаданняў: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці.

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, сіл і стойкасці на выбраным жыццёвым шляху. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас кожны дзень, а Найсвяцейшая Панна Марыя моцна трымае за руку і з мацярынскай любоўю вядзе праз усё жыццё.

*Францішканскі ордэн свецкіх і Колы Жывога Ружанца, парафія Сапоцкін*

**Паважаным Ксяндзу Антонію Абухоўскаму, Спадарыням Яніне Самойленка, Ядзвізе Альшэўскай, Яніне Малышка, Ядзвізе Матыс**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуліць сваім плашчом. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх і Колы Жывога Ружанца, парафія Сапоцкін*

**Паважаныя Ксяндзы Аляксандр Сямінскі і Аляксандр Мацкевіч!**

У дзень сваіх Імянін прыміце шчырыя віншаванні і пажаданні моцнага здароўя, радасных дзён, нястомнага запалу ў святарскай паслузе. Няхай штодзённыя жыццёвыя намаганні Вас акрыляюць і дапамагаюць заўважаць і захапляцца прыгажосцю жыцця. Жадаем таксама заступніцтва святога Аляксандра і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Усіх патрэбных ласкаў ад Бога!

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанага Ксяндза Пробашча Аляксандра Раманоўскага**

сардэчна віншуем з Імянінамі! Жадаем, каб святы Заступнік падтрымліваў у кожнай справе, а подых Божай любові спадарожнічаў па жыцці. Жадаем таксама дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і здзяйснення мар.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2326; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная